ТВ-программа на неделю

№ 242 (1306)
Субота, 29 снежня 2001 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць —
5 разоў у тыдзень

Кошт: у кіёсках і крамах — 120 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
Якуб Колас

### Надвор'е

Сёння ўдзень па краіне захаваецца воблачнае надвор'е, часам снег, мяцеліца, на дарогах снежныя заносы; 29-га — месцамі моцны снег. Вецер паўднёва-заходні і заходні, 7—12 м/с, месцамі парывы да 15—20 м/с. Тэмпература паветра 29-га ўначы — -2...-7, па ўсходзе — -12, удзень — 0...-5, 30-га — на працягу сутак — -4...-9.



ПУЛЬС

## Івонка Сурвілла падзякавала абаронцам Курапатаў

Старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі Івонка Сурвілла выказала падзяку абаронцам мемарыяльнага комплексу "Курапаты", дзе пахаваныя ахвяры сталінскіх рэпрэсій, і павіншавала іх з Калядамі.

Івонка Сурвілла таксама пажадала ўсяму беларускаму народу "надзеі на лепшае жыццё, на жыццё без страху, без штодзённага здзеку над усім, што вам дорага, — над магіламі Вашых Дзядоў... у Курапатах, над ахвярамі Чарнобыля і тымі, хто іх абараняе, над роднай мовай, якую наш народ паважаў і на якой гаварыў на працягу стагоддзяў, над нашым друкаваным словам, над нашымі сімваламі".

**Генадзь БАРБАРЫЧ.**

## Колькі чыноўнікаў у цэнтральных апаратах

Савет міністраў Беларусі ўстанавіў колькасць работнікаў цэнтральнага апарату міністэрстваў і іншых структур сістэмы рэспубліканскіх органаў дзяржкіравання.

Згодна з пастановай урада, колькасць работнікаў цэнтральнага апарату міністэрстваў складзе: Міністэрства архітэктуры і будаўніцтва — 149 чалавек, жыллёва-камунальнай гаспадаркі — 55, аховы здароўя — 113, замежных спраў — 349, інфармацыі — 72, культуры — 95, адукацыі — 190, па падатках і зборах — 196, па надзвычайных сітуацыях — 148, прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя — 64, прамысловасці — 158, сувязі — 81, сельскай гаспадаркі і харчавання — 274, спорту і турызму — 74, статыстыкі і аналізу — 360, гандлю — 95, транспарту і камунікацый — 135, працы і сацыяльнай абароны — 320, фінансаў — 397, эканомікі — 485, энергетыкі — 55, юстыцыі — 131 чалавек.

Вызначана таксама колькасць работнікаў цэнтральных апаратаў дзяржаўных камітэтаў і камітэтаў пры Савеце міністраў. Усім міністэрствам і ведамствам даручана прывесці колькасць сваіх супрацоўнікаў у адпаведнасць з устаноўленай колькасцю.

**Вольга ПАЛОНСКАЯ.**

## Можна сустрэць Новы год у лагеры абаронцаў Курапатаў

Грамадская ініцыятыва "Моладзь у абарону Курапатаў" прапаноўвае жадаючым сустрэць Новы год у лагеры абаронцаў мемарыяла, а таксама заклікае прадстаўнікоў усіх канфесій да ўдзелу ў богаслужэннях, якія праводзяцца тут кожную нядзелю.

Пакуль жа маладыя людзі працягваюць тут кругласутачнае дзяжурства, устанаўліваючы крыжы на мяжы мемарыяла, хаця рабіць гэта стала вельмі цяжка з-за маразоў. Тым часам дарожнікі вядуць работы па земляной адсыпцы апорнай сценкі, якая будзе аддзяляць мемарыял ад Мінскай кальцавой аўтамабільнай дарогі.

Апошнім часам добраахвотнікі ў Курапатах адчуваюць недахоп прадуктаў харчавання, лекаў і цёплага адзення". Валанцёры трымаюцца толькі за кошт уласных сродкаў і добраахвотных ахвяраванняў.

**Марат ГАРАВЫ.**




А.С.

## Год Лошади

Наступающий Новый год будет годом Водяной Лошади, цвет ее черный. Предыдущим годом этого цикла был 1942 год. Лошадь самое благородное и сильное животное, живущее вблизи человека. Лошадь помогает человеку преодолеть большие расстояния, работает на него в домашнем хозяйстве, с ее помощью человек завоевывает широкие пространства. Она помогает человеку одержать победу в битве, доставляет приятные минуты на скачках и во время загородной прогулки. Лошадь символизирует понятливость и скорость, она независима и следует зову сердца, часто бывает импульсивна, горяча, нетерпелива.

2002 год — год пяти затмений: 26 мая — лунное затмение; 11 июня — солнечное затмение; 25 июня — лунное затмение; 20 ноября — лунное затмение; 4 декабря — солнечное затмение.

Затмение — это время проявления сил рока и фатума, когда каждый получает по заслугам или возмездие, или воздаяние. Наиболее значимым из этих затмений будет солнечное затмение 11 июня, оно является кольцеобразным затмением, т. е. действует на всю Землю и связано с коллективной кармой. Затмение будет происходить вблизи Сатурна, что еще больше подчеркивает его кармический характер. В затмения лучше не начинать новых дел, а стараться завершить старые, не рекомендуется строить планы, отправляться в поездки. Особую осторожность надо соблюдать тем, кто родился вблизи этих дат, так как у них происходит закладка циклов на весь год, до следующего дня рождения.

Нумерологический код года равен 4, что соответствует планете Меркурий, а именно Меркурий управляет Близнецами. Управляющей планетой года является Марс, что способствует борьбе и активным проявлениям.

## Калядны "падарунак" Беларускага радыё?

Калі ў каталіцкіх касцёлах па Беларусі ішла ўрачыстая служба ў гонар нараджэння Хрыста, у кабінетах Белдзяржтэлерадыёкампаніі нарадзілася рашэнне: не даваць у эфір папулярную ў вернікаў-католікаў радыёпраграму "Голас душы".

Уладзіслаў Завальнюк, пробашч касцёла Св.Сымона і Алены (ён жа аўтар і вядучы ўзгаданай праграмы), даведаўшыся пра рашэнне кіраўніцтва БТРК, звярнуўся да намесніка старшыні кампаніі па радыёвяшчанні Аляксандра Саламахі і генеральнага дырэктара Дырэкцыі радыёпраграм Уладзіміра Мартынава з мэтай даведацца, што ж за важкія прычыны прымусілі кіраўніцтва Беларускага радыё ўзяць на сябе грэх выкрасліць з сеткі радыёвяшчання праграму.

Як ні дзіўна, але, па словах Уладзіслава Завальнюка, яму адказалі: маўляў, ніхто, апроч пенсіянераў-вернікаў, гэтую праграму не слухае. Па рэйтынгу сярод праграм Беларускага радыё "Голас душы" быццам бы не карыстаецца ўвагай вернікаў.

Мы ў сваю чаргу звярнуліся за тлумачэннямі да спадара Аляксандра Саламахі. Вось як ён патлумачыў сітуацыю:

— Будзе зменена назва і пастараемся палепшыць змест перадачы. Наконт вядучага і аўтара "Голаса душы" яшчэ не прыйшлі да адпаведнага рашэння. А што тычыцца папулярнасці праграмы, то нашы сацыялагічныя даследаванні гавораць аб тым, што колькасць слухачоў гэтай праграмы не дужа вялікая і ёсць прэтэнзіі да яе зместу.

Не даслухаўшы да канца маё пытанне: а ці будзе перагледжаны прарасійскі змест радыёперадачы "Узвышанае і зямное", сп. Саламаха спешна развітаўся і паклаў тэлефонную трубку.

**Васіль ВІШНЕЎСКІ.**



Навагодняя паштоўка Іосіфа СЯРЭДЗІЧА

## Духмяны пірог на стале галоўнага рэдактара



Сапраўды, такой "прамой лініі", якую я правёў з чытачамі "Народнай волі", яшчэ ў нас не было. Не пяць, як разлічвалася, а болей шасці гадзін вёўся шчыры, адкрыты дыялог. Я памятаю кожнае Ваша слова, кожнае Ваша пажаданне, кожную заўвагу. На душы радасна і прыгожа ад таго, што Вы ў нас ёсць, што Вы — з "Народнай воляй", а "Народная воля" — з Вамі!

2001 год паціху адыходзіць у гісторыю, але я буду памятаць Вашы галасы, шаноўныя сябры. І не толькі галасы. Вы можаце ўявіць такую карціну — трэцюю гадзіну ідзе актыўнейшы дыялог, тэлефонны апарат расколваецца ад перагрузак, я выціраю хусцінкай пот, і раптам — адчыняюцца дзверы і на парозе кабінета з'яўляецца даўнішняя прыхільніца "Народнай волі", жыхарка Смалявіч Зоя Дзмітрыеўна Іванова.

А ў яе руках — вялізны поліэтыленавы мяшок. Не паспеў я закончыць гутарку з чарговым суразмоўцам, як на стале аказаўся духмяны пірог і талерка рыбы.

— Гэта Вам, шаноўны рэдактар! Сама пякла, сама рыбку злавіла...

Падумайце толькі: за 40 кіламетраў ехала ў мароз паважаная прыхільніца "Народнай волі", каб зрабіць прыемнае галоўнаму рэдактару. Гэта лічу самай вялікай нечаканасцю 2001 года. Як тут апускаць рукі, калі ёсць такія людзі, якім так патрэбна "Народная воля".

Мілыя мае сябры! З Новым годам Вас! Няхай Ваша дабрыня, Ваша шчырасць, Ваша спагада адгукаюцца ў сэрцах усіх тых, з кім Вам давядзецца сустракацца, мець справу ў будучым!

Моцнага Вам здароўя, любыя! Поспехаў у працы і асабістым жыцці.

Да чарговых сустрэч!

Навагодняя паштоўка Анатоля КАЗЛОВІЧА

## Дарога праз самую доўгую ноч



Самай доўгай ноччу 2001 года, 22 снежня, я прачнуўся ад шуму на вуліцы. Паглядзеў у вакно са свайго дзевятага паверха. Ішоў снег. У святле вулічных ліхтароў ляцеў белы абвал, і пад гэтым абвалам у двары дома поўз жвавы павучок — трактар "Беларус". Спераду ў яго быў прычэплены бульдозерны нож, ззаду круціўся валік-венік, які шпурляў убок снег.

Назіраю, уражаны і здзіўлены, бо, мабыць, упершыню ўбачыў, што ноччу ў мікрараёне "Уручча" чысцяць ад снегу праезды, пешаходныя сцежкі, тратуары. Значыць, раніцай дзеці не папаўзуць у школу па сумётах, як заўсёды пасля снегападу. А легкавікі маіх суседзяў не будуць буксаваць у снежнай кашы. Дарэчы, "Беларус" падышоў да легкавікоў, што начуюць у двары. Ну, думаю, зараз дастанецца ім. Бо ў снегавым шквале з-пад веніка знойдуцца і каменьчыкі, і вінцікі, могуць разбіць у аўтамабілі шкло, пашкодзіць афарбоўку.

Ажно бачу: толькі трактар падышоў да соннага аўтацарства — металічны венік ззаду перастаў круціцца і шпурляць снег. Вы сустракалі камунальшчыка, які аберагае вашу маёмасць? Ды яшчэ ноччу, калі ніхто не бачыць! Калі можна рабіць абы як, гэтак, як уборшчыцы ЖЭС-107, што тыднямі не падмятаюць пад'езд у доме, зрэдку і неахайна мыюць ліфт і ніводнага разу за дванаццаць год не памылі, як трэба, вокны на лесвічнай пляцоўцы. Хіба на фоне хранічнага бязладдзя бяссонны добрасумленны снегачыст-трактарыст — не выратавальнік дзяржавы?

На душы пацяплела ад удзячнасці да незнаёмага чалавека! Я пайшоў спаць і, як кажуць у такіх выпадках, заснуў з усмешкай на твары. І ўсё, што я ўбачыў і адчуў самай доўгай ноччу, я лічу найгалоўнейшай падзеяй 2001 года.

Таго ж жадаю і вам, мае сучаснікі, — засынайце з усмешкай. Каб ваш твар не перакрывіла ад ідэалагічнай заклапочанасці, не думайце перад сном пра Лукашэнку, Пазьняка, Вячорку, Лябедзьку, Чыкіна, Шушкевіча, Статкевіча, Гайдукевіча... Лепш пажадайце здароўя снегачысту і начальніку ЖЭС, які арганізаваў жыццядзейны працэс у мікрараёне.

Калі ўсе мікрараёны ўсіх гарадоў і вёсак Беларусі злучацца прачышчанымі дарогамі, тады краіна і стане моцным арганізмам, здольным да самарэгулявання. У 2001 годзе, калі аціхла гісторыя з прэзідэнцкімі выбарамі, я заўважыў тое, што надае аптымізму і веры ў будучае, — ПРЫКМЕТЫ САМАРЭГУЛЯВАННЯ эканамічнага, грамадскага, псіхалагічнага жыцця ў Беларусі.

Жыццё не можа бясконца развальвацца. Калі палітыкі не ўмеюць яго склеіць, яно склеіцца самастойна. Ужо клеіцца! Паглядзіце ўважліва ў сваё акно — і ў 2002 годзе вам будзе лягчэй.

ВЗГЛЯД

## От ворот — поворот

На встречу с Владимиром Путиным в рамках заседания Высшего государственного совета союза Беларуси и России Александр Лукашенко отправлялся с наполеоновскими планами. Он заявил, что заседание 26 декабря будет СУДЬБОНОСНЫМ.

Схема, предложенная главой Беларуси, выглядела так. Он везет в Москву проект Конституционного акта. Члены Высшего совета решают дать этому документу ход. После чего проводится референдум (положительные его результаты можно спокойно прогнозировать уже сегодня), следом — выборы в союзный парламент.

Увы, такая стратегия была напрочь отброшена Кремлем. По сообщениям российских СМИ, Владимир Путин не дал согласия на то, чтобы вопрос о Конституционном акте был включен в повестку дня заседания руководителей двух стран. И как ни пытался один из лучших друзей Александра Григорьевича, "нижний" спикер Геннадий Селезнев, пролоббировать эту инициативу, на пути Конституционного акта был зажжен красный свет.

Российская сторона считает, что во главу угла должны быть положены не политические, а экономические мотивы. Россия твердо настаивает на унификации в экономике — это касается и финансов, и бюджета, и пошлин, и налогов... И в этом суть глубинных разногласий, которые отчетливо проявились на встрече в Кремле.

Белорусского руководителя такой подход не устраивал, и он даже позволил себе заострить проблему. Мол, надо или двигаться вперед, или вносить в ранее подготовленные планы серьезные коррективы. Путин легко охладил этот запал, снова повернув разговор к экономическим делам.

Гостю из Минска дали понять, что его стратегия Кремлем не воспринимается. Почему Москва ведет себя так на первый взгляд странно? Мне хочется конспективно выделить две, как мне кажется, главные причины. Во-первых, нынешний российский тандем правителей Путин—Касьянов мыслит совершенно иначе, чем тандем Ельцин—Черномырдин или даже Ельцин—Примаков. Те тоже были не прочь гнать интеграционную волну. Нынешнее поколение прагматиков думает иначе. К чему весь этот шум, референдумы, собрания, дискуссии и споры, когда легче прихватить Беларусь чисто экономическим путем. Ни для кого не секрет, что в уходящем году Россия положила глаз на самые лакомые кусочки белорусской экономики. Как уверяют знающие люди, российская экспансия осуществляется в самых разных формах: чисто российского капитала, смешанного с белорусским и даже под маркой западного. То есть Россия решила, что надежнее осуществить экономическую интеграцию. Естественно, в ее понимании, к ее сущим выгодам.

И вторая причина. Лукашенко никак не хочет понять, что та интеграция, о которой он так волнуется, в принципе невозможна с его участием. Представьте себе на минуту, что Кремль сегодня дал бы согласие на объединение "по-лукашенковски". Кому бы в таком случае достались лавры интегратора? Конечно, тому человеку, который уже семь лет носится с этой идеей и для которого отход от нее, как он сам заявил в Москве, означает политическую смерть.

Ну зачем российскому президенту отдавать лавры другому человеку? Куда проще подождать пару-тройку лет, провести за это время необходимую информационно-пропагандистскую кампанию и получить при этом солидные дивиденды. Когда это может случиться? Пожалуй, к следующим президентским выборам в Российской Федерации.

**Владимир ГЛОД.**

ОСТРАЯ ТЕМА

## Зарплата будет тогда, когда рак на горе свистнет

Помните грозные окрики А.Лукашенко в адрес "вертикали", руководителей заводов, фабрик, строительных предприятий, колхозов, совхозов: не будете людям платить — разгоню... Те же простые люди думали: вот это забота, больше задержек с выдачей зарплаты не будет.

Доверчивый народ — он никак не может понять, что дело не в начальниках, а в той системе, которую поддерживает тот самый А.Лукашенко и которая тянет Беларусь в пропасть. Сколько ни угрожай председателям колхозов и директорам совхозов, а денег они ниоткуда не возьмут, поскольку хозяйства лежат на лопатках. А лежат потому, что упущено время их реформирования. Не реформировали потому, что Александр Григорьевич боялся потерять власть над теми же колхозниками. Понятно, фермер, а это значит частник, не будет за копейки продавать молоко, мясо, зерно, картофель, овощи, фрукты. Он не будет брать под козырек, когда в его усадьбе появится некий чиновник, пусть даже самого высокого уровня. Не пойдет он и голосовать за того, кого на дух не переносит...




Нет, не надо ссылаться на то, что нынешней власти досталось плохое наследие. Восьмой год идет, как А.Лукашенко и его окружение "кіруюць" страной. Если бы "кіравалі" грамотно, вели Беларусь по цивилизованному пути, то не было бы такого: на 1 декабря 2001 года государство задолжало своим гражданам свыше 41 миллиарда рублей. Это только по заработной плате!

Обратите внимание на такой факт. Перед президентскими выборами власть из шкуры лезла, стараясь погасить задолженность. Продавалось все, что можно было продать, брались кредиты, где только можно было взять, вбрасывались деньги из тайного так называемого президентского фонда — все было направлено на то, чтобы в глазах людей поддержать имидж власти, выиграть выборы.

А дальше... Прошли выборы, и с выдачей зарплаты все хуже и хуже! Продолжается обнищание людей. И, похоже, народ начинает прозревать. Никакая болботня не спасет власть, если человек приходит в кассу, а ему говорят: "Зарплаты не будет. Ни сегодня, ни завтра..."




Если задолженность по зарплате будет расти такими темпами, какими она росла в последние месяцы, то повсеместно из уст остряков будут слышны слова: "Зарплата будет тогда, когда рак на горе свистнет".

**Константин БАРКУН.**

**Новогодняя открытка начальника рекламного отдела Аллы ГЕРАСИМЕНКО**



Уважаемые господа рекламодатели!

Дорогие коллеги и друзья!

Сердечно поздравляем Вас с Рождеством и Новым годом! Здоровья Вам, космических доходов, большой любви и головокружительной карьеры.

**Навагодняя паштоўка Івана МАКАЛОВІЧА**

# Новыя пытанні...



Важнейшай падзеяй адыходзячага года з'явіліся прэзідэнцкія выбары. А іх вынікі — найвялікшай нашай трагедыяй. Дакладней, рэакцыя на іх. Як сведчаць незалежныя назіральнікі, вынікі выбараў сфальсіфікаваны. Раўнадушша грамадства да такой агіднай з'явы яшчэ раз яскрава засведчыла абсалютную абыякавасць беларусаў да лёсу сваёй краіны і сваіх дзяцей.

Днямі Лукашэнка зноў пабываў у Маскве. Было балюча і сорамна слухаць, як ён перад расійскімі тэлекамерамі і падчас пасяджэння ў Крамлі прасіўся ў імперыю. Ды ў любой краіне ўзняліся б і стары і малы на абарону Бацькаўшчыны. А ў нас ціха.

Восенню добраўпарадкавалі скверык каля ўкраінскага пасольства: праклалі дарожкі, паставілі помнік кабзару Украіны Тарасу Шаўчэнку...

Ніяк не магу зразумець, чаму ён глядзіць на Усход, у бок Масквы ды яшчэ пры гэтым нахіліў галаву і сагнуў нагу ў калене. Нібы ўсім сваім відам просіць прабачэння ў расіян і беларускіх камуністаў за тое, што ўсхваляў вольную Украіну. А павярнулі б яго тварам на Поўдзень, у бок Украіны, тады і схіленая галава і сагнутая нага мелі б вялікі філасофскі і чалавечы сэнс.

Напрыканцы года было прынята рашэнне аб будаўніцтве нацыянальнай бібліятэкі. Добры крок. Але дзе мяркуюць узвесці будынак? На ўскраіне Мінска. Між тым Нацыянальная бібліятэка — адна з важнейшых цаглін у фундаменце дзяржавы. Яна, як і паштамт, парламент, звычайна ў цэнтры сталіц. Няхай бы Дом урада пабудавалі ў Шабанах...

А што ж будуюць у цэнтры Мінска? Вы не паверыце, але саспела рашэнне аб будаўніцтве на Нямізе паркінга, ці, па-простаму, гаража. Гэта ж трэба дадумацца, каб у сэрцы сталіцы ўзводзіць гаражстаянку для легкавікоў, дзе месца для нацыянальных тэатраў, універсітэтаў, бібліятэк, карцінных галерэй, выстаў, рэстаранаў, сувенірных магазінаў... Тым больш што побач ужо ёсць гараж Саўміна. Пры гэтым даецца такое абгрунтаванне: тут шмат верціцца людзей і патрэбна стаянка для транспарту. Вядома, тутэйшы паркінг прынясе дзялкам немалыя "бабкі". Няўжо мы раўнадушна сцерпім яшчэ адну абразу?

**Навагодняя паштоўка Марыны КОКТЫШ**





# З Новым годам!

ЧИТАТЕЛЬ — ЧИТАТЕЛЯМ

# Тоска по... рабству?

Совсем недавно отмечалась историческая дата — 10-я годовщина Вискулевских соглашений. Сколько по этому поводу копий сломано! А ведь многие люди до сих пор в толк взять не могут, так что же произошло? Преступление века или исторически обусловленное событие? Давайте порассуждаем.

Итак, вспомним времена конца восьмидесятых — начала девяностых годов. Бесконечные очереди, пустые прилавки, талоны, купоны, визитки и прочие атрибуты экономического "процветания" пресловутого СССР. Ведь начались эти "прелести" еще до Вискулевских соглашений. И привели нас к этому не какие-то мифические демократы, а конечно те, кто был тогда у власти, т.е. руководство знаменитой КПСС во главе с его Политбюро. Именно их бездарное руководство привело страну к экономическому краху. К 1990 году Советский Союз уже был полностью развален в экономическом плане. Как государство — экономически несостоятелен, т.е. полный банкрот. Достаточно напомнить, что внешний долг СССР на тот момент составлял около 100 миллиардов долларов, а внутренний и того больше — около полутриллиона советских рублей!

На погашение только последнего союзному руководству не хватило даже всех сбережений населения, находящихся в сбербанках и составляющих на начало 1991 года 337 миллиардов рублей. Остальную часть долга оно пыталось "заткнуть" бесконечной эмиссией, т.е. печатанием пустых денег, что привело к полному опустошению рынка и такой гиперинфляции, что буквально за год более 90 процентов граждан Союза стали нищими!

Стране угрожал экономический коллапс. И здесь многие руководители республик поняли, что ждать от союзного руководства некого чуда больше нет резона, нужно действовать самим.

Собравшись в Вискулях, делегации трех республик пришли к выводу, что разрубить этот гордиев узел можно только при одном условии: денонсации союзного договора 1922 года и создания нового государственного образования — СНГ.

Историческая оценка Вискулевских соглашений еще впереди. Ясно одно: это было единственно правильное решение, за что все нормальные люди бывшего Союза должны быть благодарны авторам исторического события. Ведь они спасли народы не только от гражданской войны, которая непременно началась бы, что подтверждают тбилисские и вильнюсские события. Они спасли миллионы жизней и от голода и холода, которые наступили бы в результате экономического коллапса и хаоса.

А в результате бескровной, бархатной революции республики получили возможность самим решать свои проблемы и свою судьбу.

— Так почему же все так плохо? — могут сказать многие. — Ведь в Союзе вроде было лучше?

А этот вопрос необходимо адресовать нынешнему руководству страны во главе с А.Лукашенко. Никто не мешал и не мешает ему строить наше государство, используя опыт цивилизованных стран. К сожалению, он избрал другой путь — реанимацию старой командно-административной системы.

В заключение хочу прокомментировать высказывания некоторых людей, осуждающих авторов Вискулевских соглашений. Что касается простых людей, то многие делают это по своей наивности и некомпетентности. Что же касается некоторых бывших руководителей типа М.Горбачева или Е.Лигачева и им подобных, так, во-первых, ведь им выгодно свалить собственную вину с больной головы на здоровую, а во-вторых, у них же такую безграничную власть забрали! Конечно, обидно.

А недавно М.Горбачев поразил еще больше, заявив, что, мол, вот дурак, зачем было начинать перестройку? Сидел бы, мол, в кресле генерального секретаря ЦК КПСС до сих пор! Поразительно! Этот человек до сих пор не понял, что НЕ ДОСИДЕЛ БЫ!

Нельзя не прокомментировать и высказывания А.Лукашенко, который без конца клеймит беловежских "зубров". Уверен, что в душе он просто не может не быть им признателен: ведь благодаря им он смог стать правителем! Но Лукашенко не был бы собой, если бы говорил то, что думает. Он прекрасно понимает, что именно такого мнения придерживается большинство его электората. Поэтому, естественно, старается ему угодить.

**Г.СОЧИЛОВИЧ.**
**г.Солигорск.**

**Навагодняя паштоўка Уладзіміра ДАЎЖЭНКІ**

# Я спусціўся з нябёс на зямлю



Трэццяе тысячагоддзе пачалося на высокай ноце. Мне пашанцавала стаць рэдкім сведкам і, можна сказаць, сааўтарам незвычайнага рэкорда, які стаў першым у сусветным летапісе новага века.

Беларускі асілак Вячаслаў Харанека з пачаткам 2001 года завяршыў 36-гадзінны марафон з уздымам над галавой піўнога кега вагой у 40 кілаграмаў. Зрабіў ён гэта 4221 раз, што ў выніку склала больш за 168 тон.

Гордасць за нашу краіну перапоўніла мяне. Аб фантастычным дасягненні беларускага волата абвясцілі ўсе тэлекампаніі планеты, акрамя роднага тэлебачання.

І гэты журботны факт адразу вярнуў з нябёс на зямлю. І, напэўна, не аднаго мяне.

На Кастрычніцкую плошчу ўвечары дзевятага верасня прыйшло толькі каля 5 тысяч чалавек, не згодных з вынікамі прэзідэнцкіх выбараў. У 20 гадзін 30 хвілін я завітаў туды і адразу ўсё зразумеў. Хаця здагадваўся аб гэтым усе сем гадоў.

Беларускаму народу падабаецца і патрэбна менавіта такое жыццё. Нельга насаджваць дэмакратыю, якая не патрэбна чалавеку. Яна павінна прыйсці сама, як подых вясны!

І я прыйшоў да высновы, што нацыя ў самым сэрцы Еўропы будуе незайздросную будучыню, якая ёй... падабаецца. І жыццё гэтае абралі сваім дзецям і ўнукам іх бацькі ды дзеды.

Мяне шмат часу хвалявала адна думка. Чаму я неяк змагаюся за лепшае жыццё? А зараз нібыта пранікся розумам: для каго і навошта? Калі ўсё роўна мы з вамі выбралі шлях, якім зараз ідзем.

Выходзіць, памыліўся я, а не народ. Лепшае жыццё — сённяшні дзень?!

Таму я вымушаны прасіць прабачэння ў астатніх. У тых 75 працэнтаў, якія прагаласавалі за... ведаеце каго. За сваю слепату. Бо ўпэўнены — народ ніколі не можа выбраць сабе смерць. А я, відаць, памыліўся. Хай будзе так!

**Навагодняя паштоўка Марыі ЭЙСМАНТ**



**Сардэчна віншую Вас, паважаныя чытачы, з надыходзячым 2002 годам і праваслаўнымі Калядамі! Жадаю нашым жанчынам, нягледзячы на ўсе цяжкасці жыцця, заставацца такімі ж прыгожымі і абаяльнымі, а мужчынам — харашэць і багацець пры іх!**

**Новогодняя открытка Валерия ЩУКИНА**

# Я расправил плечи



Родился я в год черной лошади, а наступающий 2002 год по восточному календарю также расположен под знаком черной лошади. Поскольку родился я на востоке, то отвергать эти древние премудрости мне не резон. Что-то в этом есть. К примеру, цикличность. В 1942 году я появился на свет под разрывы бомб и снарядов — похоже, наступающий год тоже мирным не будет.

Однако война войной, а в завершающий год первого своего 60-летия стоит подвести предварительные итоги (окончательные выводы о жизненном пути делаются на смертном одре). Взглянув на себя как бы со стороны, увидел сгорбленного, лысого, седобородого старика. И что-то встрепенулось во мне: ведь есть еще порох в пороховницах!

Увы, седину из бороды не убережешь, но, воспользовавшись тюремными обстоятельствами, придал ей иную форму.

Расправил плечи, убрал живот и... стал выше.

Мужественно сел в кресло стоматолога. На моем лице появилась белозубая улыбка. Выбросил теплую шапку и... на моей голове добавилось волос.

Прогресс во внешнем виде, по мнению представительниц прекрасной половины человечества, налицо. Их внимание, как известно, придает силы в любом возрасте.

Полагаю, что в оставшиеся до 60-летия три месяца изменения в моем облике будут продолжаться. В лучшую сторону.

**Навагодняя паштоўка Алеся СІЛІЧА**

# Ліда-шоу-2001



**У адыходзячым годзе мне пашанцавала наведаць шмат гумарыстычных імпрэзаў і спектакляў. Сярод іх — супергумарына "От роддома до заката" Яўгена Крыжаноўскага, галоўнага рэжысёра тэатра "Хрыстафор", выдатны спектакль "Нікола-тэатра" с удзелам Сяргея Жураўля "Пізанская вежа", выступленне каманды КВЗ "Тайна трэцяй палаты" на юбілеі народнай брыгады "Панацэя" Беларускага дзяржаўнага медыцынскага універсітэта.**

**Але ж пальму першынства, безумоўна, трымае твор рэжысёра Лідзіі Ярмошынай, які яна назвала проста — "Прэзідэнцкія выбары-2001".**

У завязцы спектакля, які прайшоў у будынку Палаца Рэспублікі, дзе размясціўся інфармацыйны цэнтр Цэнтрвыбаркама, шаноўная публіка даведалася, што не зможа завітаць у "рэжысёрскую" Лідзіі Міхайлаўны — Цэнтральную выбарчую камісію, а павінна частавацца інфармацыяй аб ходзе прэзідэнцкіх выбараў з вялікіх прыгожых экранаў, устаноўленых у гэтым самым інфацэнтры.

Першы жарт з'явіўся адразу ж пасля таго, як пачалі прыходзіць папярэднія даныя галасавання. Усе цудоўна ведаюць, што рэйтынг існуючага правіцеля ў сталіцы найменшы: згодна з адной інфармацыяй, ён каля 30%, згодна з другой — наогул скаціўся ніжэй у 15%. Дык вось, па першай інфармацыі Ярмошынай па Мінску за Лукашэнку нібы прагаласавала больш за 91%(!!!). "Чаму не 191?" — спытаў я ў журналісцкай браціі, якая разам са мной прыйшла парагатаць у нядзельны дзень. "Калі б было 191%, у міжнародных назіральнікаў маглі б узнікнуць некаторыя сумненні ў аб'ектыўнасці даных", — адказаў хтосьці з калег.

Дарэчы, пра міжнародных наглядальнікаў, сярод якіх чамусьці дамініравалі пераважна прадстаўнікі азіяцкай цывілізацыі, а таксама лепшы сябра Беларусі Павел Барадзін. Якраз пра яго нарадзіўся чарговы жарт у аднаго з гледачоў — журналіста Уладзіміра Глода. "Кажуць, толькі што ў Мінск прыбыла старшыня міжнароднага трыбуналу у Гаазе Карла дэль Понтэ", — с сур'ёзным выглядам паведаміў Глод. "Дзеля чаго?" — зацікавіліся "пісакі". "Каб паназіраць за адным з міжнародных назіральнікаў", — дадаў Уладзімір Уладзіміравіч.

Вось так і прайшоў гэты гумарыстычны вечар 9 верасня. Камусьці ён спадабаўся, іншым, у асаблівасці тым, каму жыць у гэтай краіне, уеўся ў пячонкі. "Пайшлі адсюль", — прапанаваў мне карэспандэнт расійскага НТБ Павел Селін, калі быў абвешчаны спіс міжнародных назіральнікаў на прэзідэнцкіх выбарах.

Карацей кажучы, калі адкінуць залішнюю пераборлівасць, 9 верасня ў інфармацыйным цэнтры Цэнтрвыбаркама было смешна. Бясплатнае шоу ўдалося! Не да гумару стала толькі краіне. Па меншай меры, на бліжэйшыя пяць гадоў...

Пажадаю напрыканцы маім землякам-беларусам у новым 2002 годзе не губляць усё ж такі аптымізму і навучыцца смяяцца нават з сумнага. Жадаю Вам, залатыя мае, непахіснага здароўя і шмат, шмат грошай (па магчымасці, зялёнага колеру). Прарвемся!

# Чаму маўчыць аргкамітэт Усебеларускага з'езда за незалежнасць?

Бадай, ні адна з падзей апошніх гадоў не рабіла на мяне такога моцнага ўражання, як Усебеларускі з'езд за незалежнасць. Я не быў яго дэлегатам, але слухаў усе выступы спачатку па дынаміку ў фае, а потым і непасрэдна ў зале. Ніколі не забыць кульмінацыйны момант — прыняцце Акта незалежнасці Беларусі. Было такое адчуванне, што за вольную Бацькаўшчыну галасуюць усе нашы свядомыя грамадзяне.

Памятаю, як напрыканцы форуму хтосьці з месца выказаў меркаванне пра неабходнасць стварэння нейкай структуры накшталт камітэта ці нават урада нацыянальнага ўратавання. Старшынствуючы Радзім Гарэцкі адказаў, што гэта рабіць яшчэ рана. Аргкамітэт, маўляў, мусіць уважліва сачыць за развіццём падзеі і, калі ўзнікне патрэба, дэлегаты з'езда зноў збяруцца, каб прыняць адпаведнае рашэнне. На галасаванне гэта пытанне не ставілася, але было бачна: прысутныя пагадзіліся з такім падыходам да адказнай справы.

З таго часу мінула амаль паўтара года. Набірае тэмпы аб'яднанне з Расіяй у адзіную дзяржаву, што прывядзе да страты Беларуссю незалежнасці. Але нічога не чуваць пра рэакцыю на гэта аргкамітэта з'езда як калектыўнага органа (асобныя яго сябры, у тым ліку сустаршыні, не тояць сваю грамадзянскую пазіцыю). Невядома, ці збіраліся камітэтчыкі разам, каб абмеркаваць беларуска-расійскія стасункі на этапе паспешлівага раскручвання "саюзнага" махавіка, удакладніць канкрэтныя шляхі згуртавання людзей вакол ідэй Акта незалежнасці. Можа, пара падумаць і пра скліканне другой сесіі ўсенароднага форуму?

**Генадзь ЛАГУНОВІЧ,**
**падпалкоўнік у адстаўцы, ветэран вайны і Узброеных Сіл.**
**Мінск.**

# Новогодний "сюрприз" в Витебске

Глава государства недавно дал "ценное", а главное, строгое указание: к Новому году (не позднее 27 декабря) выдать зарплату. При этом пригрозил: если поручение не будет выполнено, то первые лица исполнительной власти останутся без денег. (Надо полагать, имел в виду и себя.)

"Главный кассир" страны, наверное, не учел одного обстоятельства: у местной власти нет средств, чтобы рассчитаться с долгами по зарплате. К примеру, выступая на недавней сессии Витебского областного совета депутатов, начальник финансового управления облисполкома Александр Сергеенок заявил, что до конца года властям необходимо изыскать (где-то?!) дополнительно 15 миллиардов рублей для выплаты заработной платы работникам бюджетной сферы.

А где такие деньги взять? По данным Комитета госконтроля Витебской области, на середину декабря 445 субъектов хозяйствования еще не рассчитались по зарплате за сентябрь—октябрь, а это колоссальный долг. Правда, местная власть здесь ни при чем: она заложница всей системы власти.

Возможно, банковские кредиты "спасут" положение дел и новогодний стол у населения будет если не с шампанским, так хотя бы с "чаркай и шкваркай". Но настанут будни — трезвые. То, что люди обеднели до предела (не говоря о пенсионерах), — не секрет. Знакомый предприниматель сказал, что в прошлом году на рынках предновогоднего Витебска шла бойкая торговля. Нынче покупателей там почти нет.

В прошлом, 2000, году в Витебске справили новоселье 1237 человек. А в 2001 году почти в пять раз меньше (!). Кстати, в Витебске в очереди на получение жилья стоят 30 тысяч граждан. "Абориген" этого списка числится в нем с 1971 года. Если такими темпами будет строиться жилье, то последний, ставший на очередь, справит новоселье через 100 (!) лет.

**Владимир ЖИГУЛОВ.**



НАВАГОДНІЯ "ПАДАРУНКІ" АД УЛАДЫ

# З 23 снежня ў Беларусі павысіліся тарыфы на паслугі электрасувязі

Рэспубліканскае дзяржаўнае аб'яднанне "Белтэлекам" абвясціла аб павышэнні з 23 снежня тарыфаў на паслугі электрасувязі. Як паведамілі БелаПАН у РА "Белтэлекам", змяненне тарыфаў зроблена ў адпаведнасці з рашэннем Камісіі па каардынацыі дзейнасці рэспубліканскіх органаў дзяржаўнага кіравання па пытаннях цэнаўтварэння пры Савеце міністраў Рэспублікі Беларусь для забеспячэння бясстратнасці работы прадпрыемстваў электрасувязі ва ўмовах росту эксплуатацыйных затрат.

Для насельніцтва кошт міжгародніх тэлефонных размоў павялічыўся ў межах вобласці да 9,5 рубля, а ў межах краіны — да 19 рублёў за хвіліну. Вырас таксама кошт паслуг гарадской і сельскай тэлефоннай сувязі: пачасовая плата цяпер складае 3,36 рубля за хвіліну, абанентная для пераведзеных на пачасовую аплату — 684 рублі, для непераведзеных на пачасовую аплату — 1100 рублёў. Павялічыліся таксама тарыфы на паслугі тэлеграфнай сувязі і радыёфікацыі. Кошт слова ў звычайнай тэлеграме з сённяшняга дня складае 12,5 рубля, у тэрміновай — 25 рублёў. Абанентная плата за радыётрансляцыйныя кропкі складзе 161 рубель штомесяц.

Паводле інфармацыі РА "Белтэлекам", змяніўся таксама кошт электронных картак для таксафонаў. Картка наміналам 120 хвілін каштуе 1590 рублёў, універсальныя карткі вялікай ёмістасці: 20 тарыфных адзінак — 770 рублёў, 100 адзінак — 1400 рублёў, 500 адзінак — 4560 рублёў, 750 адзінак — 6540 рублёў.

**Ірына САЗАНОВІЧ.**

# Да канца першага квартала 2002 года тарыфы на электраэнергію для насельніцтва будуць павышаны на 40 працэнтаў

Пра гэта паведаміў міністр энергетыкі Беларусі Уладзімір Сямашка на прэс-канферэнцыі ў Мінску. Паводле яго слоў, павышэнне тарыфаў прадугледжана праектам бюджэту на 2002 год у адпаведнасці з канцэпцыяй ліквідацыі перакрыжаванага субсідзіравання жыллёва-камунальных паслуг для насельніцтва (зараз насельніцтва плаціць ад 13,9 да 19,2 рубля за кілаватгадзіну электраэнергіі).

**Дзмітрый УЛАСАЎ.**

# У Брэсцкай вобласці адзначаецца зніжэнне сярэдняй зарплаты

Сярэдняя зарплата ў Брэсцкай вобласці да канца года не дасягнула ўзроўню 100 долараў ЗША. У апошнія месяцы адзначаецца тэндэнцыя не да росту, а да зніжэння. Сярэдні заробак за верасень некалькі зменшыўся ў параўнанні са жнівеньскім. Гэтая ж тэндэнцыя прасочваецца і ў лістападзе. За мінулы месяц сярэдняя зарплата па народнай гаспадарцы Брэсцкай вобласці склала 125,8 тысячы, у той час як за кастрычнік — 126,6 тысячы рублёў.

Менш сталі атрымліваць у прамысловасці, будаўніцтве і ў банкаўскай сферы. Знізілася зарплата ў калгаснікаў — з 74,9 да 71,5 тысячы рублёў. Нізкім застаецца ўзровень аплаты працы ў сацзабеспячэнні — 80,9 тысячы, ва ўстановах культуры — 91,4 тысячы, у мастацтве — 80 тысяч рублёў. З усіх катэгорый працуючых толькі работнікі страхавых фірмаў павялічылі свае сярэднія даходы — з 206,7 тысячы ў кастрычніку да 264 тысяч рублёў у лістападзе.

Паводле звестак на сярэдзіну снежня, запазычанасць па зарплаце ў Брэсцкай вобласці перавысіла 5,5 мільярда рублёў.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ.**

БЛІЦ-РЭПАРТАЖ



# Прыгожая ёлка, цудоўныя трактары і малавата самапавагі

**Гэта стала ўжо традыцыяй: напярэдадні Новага года мінскія трактаразаводцы дэманструюць свае тэхнічныя дасягненні, ладзяць святочныя гулянні каля ёлкі-прыгажуні.**

На гэты раз падстаў для свята ў трактарабудаўнікоў нямала. Можна смела сказаць: шматтысячны калектыў пад кіраўніцтвам такога вопытнага дырэктара, як Міхаіл Лявонаў, з гонарам трымае выпрабаванні часу. Нельга было не спыніцца, напрыклад, ля машыны, якая ў хуткім часе выйдзе на палеткі не толькі Беларусі, але і іншых краін. Для такога трактара не будзе перашкод — шырокія гумовыя гусеніцы дазволяць весці работы на самых цяжкадаступных участках. Дарэчы, ціск на глебу ад гусеніц меншы, чым ад абцаса звычайнага абутку. Прыцягваюць увагу і многія іншыя навінкі МТЗ.

Трактаразаводцы ўмеюць не толькі добра працаваць, яны клапоцяцца і пра сваё здароўе, маральна-псіхалагічны клімат у рабочых калектывах і сем'ях працаўнікоў. На вуліцы мароз, а вось гэтым прыгажуням, якіх вы бачыце на здымку, — горача, як летам, ледзяная вада — іх стыхія.

Навагодняя ёлка трактаразаводцаў стаіць на плошчы перад галоўнай прахадной завода. У той дзень, калі на ёй заіскрыліся рознакаляровыя гірлянды, на святе МТЗ пабывала шмат мінчан. Радаваліся яны за сусветна вядомы калектыў. Хоць ёсць нагода і для таго, каб выказаць некаторыя пажаданні. Цудоўныя трактары выпускаеце, шаноўныя, умееце ладзіць святы, але чамусьці малавата ў Вас самапавагі. Калі я кінуў позірк у бок галоўнай прахадной, убачыў — "Минский тракторный завод имени В.И.Ленина". Па-першае, на прадпрыемстве працуюць у асноўным беларусы, у якіх прыгажэйшая ў свеце мова. І чаму такая павага да чужога слова і непавага да свайго роднага?

Па-другое, ужо нават школьнікам вядома, што Уладзімір Ульянаў (Ленін) прынёс XX стагоддзю больш гора, чым радасці. Ужо не носіць яго імя Беларускі дзяржаўны універсітэт, няўжо для трактарабудаўнікоў гэты чорны ідал па-ранейшаму застаецца святым?

Пакідаючы плошчу, я міжволі яшчэ раз зірнуў на святочную ёлку трактарабудаўнікоў. І ўбачыў: "С Рождеством, с Новым годом!". А чаму б не напісаць — "З Калядамі, з Новым годам!".

Ёсць трапны выраз — калі сам сябе не паважаеш, то не будуць паважаць і іншыя. Таму больш самапавагі, даражэнькія трактаразаводцы!

**Антон КОРЗУН.**

